# Пётра Конюх у Нью-Ёрку

Увосень сёлета беларуская калёнія Нью-Ёрку з радасьцяй і надзеяй прывітала й прыняла да сябе новага сябру, прыбылога зь Італіі слаўнага нашага сьпевака-баса Пётру Конюха.

Уважлівым чытачом нашае эміграцыйнае прэсы, а найперш ейнага найсталейшага й найпапулярнейшага органу «Бацькаўшчына», знаёмае ўжо гэтае імя. Паходжаньнем зь с. Турэц, на Наваградчыне, наш слаўны суродзіч і сябра ўжо ад юнака адзначыўся вялікім замілаваньнем да музыкі, сьпеву й тэатру, выяўляючы пры гэтым і свае асабістыя нябудзённыя здольнасьці ў гэтых галінах. Перад апошняй сусьветнай вайною ён ужо спрабаваў свае сілы ў якасьці дырыгента аркестры й сцэнічнага актора, працуючы й над разьвіцьцём найбольшага свайго прыроднага дару — голасу сьпевака (г. зв. «басо сэрыё»).

Як і вялікая маса нашае заходнябеларускае моладзі, з пачатку вайны Конюх апыняецца ў палоне ў глыбі Расеі, адкуль ратуецца ў 1942 г. далучэньнем да II-га Польскага Корпусу, трапляючы ў ягоных шарох на баёвішчы Блізкога Усходу й Італіі, змагаючыся тут пад славутым Монтэ Касыно, ля Балёны, Анконы й іншых гарачых пунктаў гэнае вайны.

На сонечных лонях музыкі, сьпеву, спэры — у Італіі — Конюх і застаецца па вайне, шукаючы й знаходзячы тут як найлепшыя магчымасьці для адшліфаваньня свайго таленту. У 1951 г. ён завяршае свае музычныя, вакальныя й драматычныя студыі ў Рыме ў лепшых гэнашніх спэцыялістых. Выступае тут у шмат якіх знаных канцэртных залях, як Піё XII-мо, Паляцо Барбэрыні, Кастэль Сан Анджэлё, Чырколё Артыстыко й інш., бярэ ўдзел і выграе ў наладжаваных розных конкурсах сьпевакоў, выступае й за межамі Італіі — у Лёндане, Мюнхэне, Лювэне, Брусэлі ды іншых гарадох Эўропы. А галоўнае — усюды й заўсёды выступае як наш **беларускі сьпявак,** ня толькі не хаваючы, але й падчыркваючы гэта ды аддаючы як мага сваю даніну беларускай музыцы ды песьні.

Ужо пры першым спатканьні ў вузкім коле сяброў Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва ў Нью-Ёрку неўзабаве па прыбыцьці сьпевака сюды, выявілася перад намі ўся сіла ягонага таленту, дармо што спатканьне гэнае было ў поўным сэньсе экспромтавае, ані ня рыхтаванае, бяз аніводнае рэпэтыцыі з акампаніятарам, праф. Э. Зубковіч, што толькі чыстым выпадкам апынілася пад рукамі, у невялічкім цесным пакойчыку, бяз усякае акустыкі, пры далёкім ад адпаведнасьці й інструмэньце. Першае-ж публічнае зьяўленьне Конюха із сьпевам у Нью-Ёрку на вялікім мітынгу Лігі Вызваленьня Народаў СССР 11 лістапада 1956 ў вадным зь лепшых гэтташніх гатэляў «Камадор» сталася ўжо першым запраўдным трыумфам сьпевака перад аўдыторыяй ня чыста беларускай, а шматнацыянальнай.

2 сьнежня 1956 г. стараньнямі сп. К. Мерляка, старшыні Нью-Ёркаўскага Акруговага Аддзелу Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня (БАЗА), быў зладжаны ўжо адмысловы суцэльны публічны канцэрт Пётры Конюха ў вадной із заляў знанага гэтташняга канцэртавага цэнтру Карнэгі Гол. Да канцэрту была выданая прыгожа праграма з фото сьпевака (і, дарэчы, з рэклямаю падпіскі й на нашую «Бацькаўшчыну»). На акампаніятара быў запрошаны адзін зь лепшых гэтташніх піяністых, праф. І. Базылеўскі, якому даводзілася сваім часам ці раз акампаніяваць самому славутаму Шаляпіну. У праграму ўвайшлі ня толькі рэчы міжнароднага рэпэртуару такіх кампазытараў, як Вэрды, Бойто, Шубэрт, Чайкоўскі ды інш., выконваныя ў розных мовах (італійскай, ангельскай, нямецкай, расейскай, польскай украінскай), але й нумары нашае беларускае музыкі й народнае песьні («Палыночак», «Што й за месяц», «Малойчык» і інш.); пабеларуску выконваліся й некаторыя міжнародна знаныя рэчы, як «Элегія» Маснэ, «Ноч» Чайкоўскага. Публіка адразу ацаніла сьпевака, бурна выяўляючы сваё штораз большае захапленьне, а ў канцы доўга не жадаючы расставацца зь ім ды патрабуючы новых і новых сьпеваў. «Ня было яшчэ гэткага баса, дый наагул гэткага сьпевака ў нас, Беларусаў», — гэткая была агульная й зусім справядлівая ацэна нашых суродзічаў. Дый сярод старонніх людзей — гасьцей чуваць было ці раз успамінаньне таго-ж імя Шаляпіна ў прыхільных параўнаньнях да нашага артыстага.

Гэтак паставіў свае першыя крокі на скалістым груньце сусьветнае сталіцы нашага часу наш сьпявак. І сам ён і мы ўсе добра ведаем, якую нялёгкую дарогу пачаў ён тут, дзе музычнае й тэатральнае жыцьцё зарганізаванае на аснове стродка замкнёнае каставасьці, што не адмыкаецца адным ключом таленту, хоць-бы й найвялікшага. Ключы-ж гэныя мусяць быць найперш пазалочаныя ў літаральным сэньсе... Каб, прыкладам, сьпяваць у славутай тутэйшай «Мэтрапалітэн Опэры», у даклад да бязумоўных дадзеных трэба закласьці каўцыю ў 12 тыс. даляраў... На гэткіх умовах ахвоча й рада бяруць туды й нашага сьпевака, ды дзе-ж гэныя тысячы ў яго, дый у нас, выкалесных тулягаў па сьвеце? Адразу не заробяцца...

Зрэшты, калі гэта й дзе дарога да запраўднае й вялікае славы бывала зусім лёгкаю й простаю? Кажны-ж з нас, хто чуў тут Пётру Конюха, поўны надзеяю й нат пэўнасьцяй, што на гэтую дарогу — дарогу сусьветнае славы — ён усё-ж узыйдзе. Памагчы яму ў гэтым як мага — толькі павіннасьць кажнага з нас, ягоных суродзічаў і сяброў. А найперш — пажадаць яму гэтага як найшчырэй і найзычлівей.

Пажадаць заняць належнае яму й годнае месца амбасадара Беларусі ў вадной із старонаў людзкага мастацтва.

**Зычлівы**

# Разам з вугорскімі паўстанцамі

Савецкае войска, што пасланае было ў Вугоршчыну на здушэньне народнае рэвалюцыі, панесла ня толькі матарыяльныя страты (пасланец індыйскага прэм'ера Нэру, Крышна Мэнон, пасьля павароту з Будапэшту ў сьнежані сказаў, што савецкая армія страціла— забітымі й дызэртырамі — 7.000 жаўнераў). Адным з найбольшых udараў па 200 тысячах савецкіх жаўнераў быў мамэнт прапагандова-палітычнага характару. Фактам зьяўляецца, што шмат хто з савецкіх жаўнераў, прыбыўшы ў Вугоршчыну, дапытваўся: «А дзе-ж тут канал?», шукаючы гэнага Суэзкага каналу, на які іх выпраўлялі палітрукі абараняць правы пакрыўджанага эгіпецкага народу. Урэшце, кажны зь іх пабачыў, супраць каго ён змагаецца ў сапраўднасьці. Змушаныя страляць у безбаронны натоўп — у жанчын і школьнікаў-падлёткаў — яны пабачылі гэных «гортыстых контррэвалюцыянэраў і агентаў заходняга капіталу», якіх у чорна-крывавых хварбах размалёўвала бальшавіцкая прапаганда. Калі 200 тысяч савецкага войска выйгралі вайну з вугорскімі паўстанцамі, дык палітычнае кіраўніцтва гэтымі аддзеламі прайграла бязьліч сваіх ваяк у сэнсе палітычным.

Апошнімі тыднямі заходняя прэса шмат пісала аб выпадках пераходу на бок вугорскіх патрызанаў ня толькі паасобных савецкіх жаўнераў і ахвіцэраў, але цэлых вайсковых адзінак. Сярод гэтых «дызэртыраў» у першую чаргу апынуліся Беларусы і Ўкраінцы, прадстаўнікі народаў, што заўсёды былі патэнцыяльнымі ворагамі бальшавіцка-маскоўскае дыктатуры. Газэты й прэсавыя агенцтвы на Захадзе часта хвальшыва прадстаўлялі гэтыя факты, запісваючы іх на конта «расейскае» — як гэта яны робяць ціраз і з Савецкім Саюзам — «Расеяй».

**У палове мінулага месяца венская газэта «Ноер Кур'ер», базуючыся на сьветчаньнях вугорскіх уцекачоў, паведаміла аб жорсткім збройным змаганьні беларускіх аддзелаў з мангольскімі за валоданьне Токельскім лётнішчам недалёка ад Будапэшту. Баі працягваліся некалькі дзён. Ня могучы здабыць лётнішча, Беларусы адступілі й далучыліся да вугорскіх партызанскіх аддзелаў.**

Вестка гэтая была апублікаваная і ў іншых заходніх газэтах: бэльгійскай «Ля Мэз» (14. 12. 56), амэрыканскай «Нью Ёрк Ўорлд Тэлеграм» (13. 12. 56) і інш. Яна была пададзена таксама праз італьянскае радыё.

**А. Б.**


НАЙЛЕПШЫМ і НАЙПРЫЯМНЕЙШЫМ ПРЫНАГОДНЫМ ПАДАРКАМ ЁСЬЦЬ ПОЎНАЯ БІБЛІЯТЭЧКА БЕЛАРУСКІХ КНІЖАК ВЫДАВЕЦТВА «БАЦЬКАЎШЧЫНЫ» ПА ЗЬНІЖАНАЙ НАПАЛАВІНУ ЦАНЕ

# У паняволенай Беларусі

**РАДЫЁ—МЕНСК ПАВЕДАМЛЯЕ:**

**Пэдагагічны інстытут імя Скарыны**

(13. 12. 56) Указ Прэзыдыюму Вярхоўнага Савету БССР:

Прысвоіць Полацкаму дзяржаўнаму пэдагагічнаму інстытуту імя Георгія (?!) Скарыны і надалей яго называць «Полацкі дзяржаўны інстытут імя Георгія Скарыны».

✳

**Эўрэка!..**

(15. 12. 56) Перадавыя калгасы рэспублікі даказалі, што рашаючай умовай павышэньня ўраджайнасьці зьяўляецца дастатковае угнойваньне глебы...

✳

**Няма гною**

(15. 12. 56) Справа дайшла да таго, што адзін калгас «Расьсьвет» Магілёўскае вобласьці вывозіць на палі значна больш угнаеньняў, чым усе 29 калгасаў Мехаўскага раёну разам узятыя...

✳

**Беларускую моладзь — у Данбас**

(16. 12. 56) Тры месяцы назад звыш 700 маладых патрыётаў Гомельшчыны адгукнуліся на заклік ЦК ВЛКСМ і выехалі на работу ў Данбас...

✳

**Хто кіруе калгасамі?**

(16. 12. 56) ...У радзе сельскагаспадарчых арцеляў (калгасаў) на пасадах старшынь упраў яшчэ пацуюць слаба падрыхтаваныя, а часам і проста выпадковыя людзі... (Ёсьць выпадкі).. калі мясцовыя, партыйныя й савецкія органы баяцца выпраўляць свае ўласныя памылкі.

✳

**І холадна і голадна**

(18. 12. 56) Сёлета зімоўка жывёлы ў калгасах і саўгасах нашае рэспублікі праходзіць у складанай абстаноўцы. **Вялікая частка гаспадарак уступіла ў стойлавы пэрыяд зь недастатковымі запасамі кармоў.** Толькі нязначнае месца ў кармавых балянсах займаюць грубыя кармы, і перш за ўсё, салома.

✳

**Шанхайскі тэатр у Менску**

(19. 12. 56) Учора ў Міністэрстве культуры Беларускае ССР адбылося прыняцьце кіраўнікоў і вядучых артыстаў прыбылага ў Менск на гастролі Шангайскага тэатру пэкінскае музычнае драмы.

✳

**«Сымон Музыка» на сцэне?**

(29. 12. 56) Калектыў тэатру «Юнага гледача» даўно ўжо марыць аб інсцэніроўцы вядомае паэмы Якуба Коласа «Сымон Музыка»...

**Недахоп жыльля ў Менску**

(20. 12. 56) Ня гледзячы на вялікі размах жыльлёвага будаўніцтва, у сталіцы рэспублікі ўсё яшчэ адчуваецца недахоп жыльля... (Менск мае цяпер падвойную колькасьць насельніцтва ў параўнаньні з даваенным станам).

✳

**Выпустошваюць Беларусь з моладзі**

(21. 12. 56) Бальшыня выпускнікоў Пружанскага тэхнікуму мэханізацыі сельскае гаспадаркі выказала жаданьне(?) пасьля вучобы паехаць працаваць на цаліну.

✳

**Пленум ЦК ЛКСМ Беларусі — Актывісты ня могуць адказваць на пытаньні**

(22. 12. 56) 20—21 сьнежаня адбыўся пленум Цэнтральнага Камітэту ЛКСМ Беларусі. Пленум абмеркаваў пытаньні: аб рабоце камсамольскіх арганізацыяў вышэйшых і сярэдніх спэцыяльных навучальных установаў, аб кіраўніцтве Камянецкага райкому ЛКСМБ камсамольскімі арганізацыямі калгасаў... **У Беларусі працуюць 23 вышэйшыя й 122 сярэднія спэцыяльныя навучальныя ўстановы. У іх вучацца 110 тысяч студэнтаў.**

Сакратар камсамольскага камітэту Беларускага дзяржаўнага ўнівэрсытэту тав. Ботаў гаварыў у сваім выступленьні, што пасьля XX-га зьезду КПСС у студэнтаў узрасла цікавасьць да падзеяў у нутраным жыцьці ў нашай краіне й за рубяжом.

Аднак, **не заўсёды камсамольскія актывісты могуць адказваць на пытаньні, якія задаюць студэнты...**

✳

**Яшчэ адны «выбары»**

(25. 12. 56) Прэзыдыюм Вярхоўнага Савету БССР пастанаўляе

Назначыць выбары ў абласныя, раённыя, гарадзкія, сельскія й пасялковыя саветы дэпутатаў працоўных Беларускае ССР на нядзелю 3 сакавіка 1957 году.

✳

**Зьмена назову часапісу**

(28. 12. 56) Пачынаючы із студзеня 1957 году, часапіс **«Калгасьнік Беларусі»** будзе выходзіць пад назовам **«Сельская гаспадарка Беларусі».**

✳

**Аднаасабовая й калектыўная дыктатура...**

(29. 12. 56) Як адзначалася на Пятым пленуме ЦК КПБ, у шэрагу калгасаў кіруючыя працаўнікі забыліся аб тым, што ўсе сябры арцелі зьяўляюцца гаспадарамі калгасаў. Такія працаўнікі ня прыслухоўваюцца да думкі калгасьнікаў, ня раюцца зь імі. Важныя пытаньні калгаснага жыцьця вырашаюцца аднаасабова або ў вузкім коле...

---

ку знаёмую паненку, якая навучала балерын быць «музападобнымі».

Выкладаньне балету вялося паводля прыдуманай панам Вашамірскім праграмы.

Балерыны выстаўляліся ў рад перад яснавяльможнай паненкай. Паненка загадвала ім перарабляць усе тыя рухі, якія яна сама будзе рабіць.

Цікавая містэрыя малпаваньня адбывалася ў балетнай залі.

Усе тыя крыўленьні, рухі і павароты рукамі, нагамі, галавой, якія робіць паненка, перарабляюць і балерыны.

Розныя вывёртваньні бёдрамі, цэлая калекцыя разнастайных усьмешак, якія робіць паненка, кап'ююць, як хто можа, і балерыны.

Пільна сачыў за гэтым сам пан Вашамірскі. Ледзь малейшая неакуратнасьць кап'яваньня з боку балерыны, пан адсылаў яе ў той пакой, дзе адбывалася над ёю катаваньне.

Ідэял пана быў такі, каб усё тое, што робіць паненка, перараблялі да малейшага штрыху балерыны. Трэба, каб кажная балерына выглядала ў гэтым выпадку як-бы адбіткам паненкі ў люстэрцы.

У паненкі быў нявычарпальны запас рухаў, жэстаў, выгінаньняў, хістаньняў усяго цела, выгадаваных у арыстакратычных рыцарскіх фліртах з пакаленьня ў пакаленьне. Потым міміка твару, розныя тоны і пералівы яе ўсьмешкі — ад звычайнай ганаровай, пагардлівай, гарэзьліва-гульлівай да набожнай, нявіннай усьмешкі мадонны, — таксама рознага роду выяўленьні мімікай каханьня, замілаваньня і любошчы мелі сотні пераходаў і варыянтаў.

А вялікія рознастайнасьці выразу твару, вачэй і губ, якія паненка выкладала балерынам, — канца ня мелі.

У гэтым выпадку францускі рэжысёр меў таксама свой пагляд. Ён думаў, што перадаваць мімікай і жэстамі ўсялякія пералівы чалавечых пачуцьцяў, захаваных у глыбіні душы, кажны здольны мастак (а балерыны-халопкі былі здольныя) павінен умець пасвойму. Ды наогул, кажны чалавек пасвойму перадае свае пачуцьці. У гэтым і ўся каштоўнасьць ігры. І балерынам трэба даць волю кажнай самой сабою, выяўляць пасвойму кажную рыску, а не малпаваць іншых.

Перад воляй пана Вашамірскага ўсялякія пэдагагічныя тэорыі рэжысёра разьбіваліся, нібы прыбой аб прыбярэжныя камяньні.

**II**

З аркестрам таксама былі нелады. Капэльмайстар быў з прыгонных. Хамскі дух адчуваўся і ў музыцы. Ён так вышкаліў музыкаў, што, іграючы творы францускіх, італьянскіх ці іншых эўрапэйскіх кампазытараў, яны кажны раз зварочвалі на хамскі лад. У мажорных тонах пракрадваліся часамі гукі лявоніхі, дуды, юркі; мінорныя матывы аддавалі смуткам і задумленьнем жніўных песень на панскім полі. Ды і сам тэмп ігры быў інакшы, чымся ў арыгіналах.

Францускія пэдагогі — знаўцы музыкі — гаварылі, што капэльмайстар і музыкі на канве гатовых твораў вядомых кампазытараў твораць нешта сваё, новае... Нельга казаць, каб гэтае «сваё» было няцікавым, але ў даным выпадку патрабуецца чыстага выкананьня сусьветных мастакоў, бо выходзіць, што эўрапэйскае мастацтва абуваецца ў мужыцкі лапаць...

Аднак гэта гутаркамі й канчалася. Было позна выпісваць цяпер з Парыжа капэльмайстра.

Біцьцё музыкаў на панскай стайні ні да чаго ня прыводзіла.

— Гэта ўжо ў іх крыві нешта такое ёсьць, — тлумачыў рэжысёр, — бізунамі ня выб'еш і агнём ня выпаліш...

Капэльмайстар Антон Мурашка быў добрым скрыпачом. Часам, калі звальняўся на кароткі час ад заняткаў, ён граў «для сябе». Граць «для сябе» было для яго вялікай асалодай. Забіўшыся ў куток дзе-колечы ў вадным з аддаленых пакояў панскага палацу. ён браў у рукі сваю ўлюбёную скрыпку, браў з такім замілаваньнем, як маці бярэ роднае дзіцё. У гэты час яму здавалася, што ён нешта крадзе ў пана... Такія ўчынкі не дазваляліся, але вельмі цягнула граць «для сябе».

Аглянецца па бакох, пасьля ў нейкай жудаснай прыемнасьці зажмурыць вочы, правядзе па струнах раз-другі смычком, тоненька завядзе, ціха-ціха... Волас ледзь даткнецца да струны., нібы птушка кволым крыльлем да сваіх птушанятак якія дрэмлюць у гнязьдзе.

А потым ужо Антон нічога ня памятае... Скрыпка пачынае гаварыць. Яна волю дастае...

Жаўранкі носяцца ў паветры, зьвіняць... Ластаўкі шастаюць крыльлем... Ветрык шапочка з чаротам...

Ці мо' гэта здаецца Антону?

Не...

На полі жнейкі жнуць... Дзесьці на лузе косы зьвіняць. Галасы бліскучай сталі зьліваюцца з шорханьнем мядовай муражнай травы, сплятаюцца ў вадно з праменьнем летняга сонца...

Можа гэта Антон сьніць дзівосны сон?

Не...

Багун галаву хмеліць... Ягады-дурніцы чорным вугольлем блішчаць, нібы зрэнкі дзяцей уночы, калі пры лучыне дзед ім байкі бае... Аддае пахам прэлых сураежак... А па купінах сіўца, калючага, як дрот, сьцелецца-гнецца вецер. Часам ён загудзіць, сьвісьне на ўсе лады, зашастае між крывых, шчуплых бярэзін, басаножкай пусьціцца гуляць па рудаўках зь цёмнага пэрламутру і схаваецца, як дуроньнік, у кудзерцах прысадзістай вольхі...

Няйначай Антон бачыць гэта перад вачыма?

Бачыць...

А то дзяўчаты ў карагод пускаюцца. Гукаюць вясну... Косы распушчаны. Карагодніцы песьні пяюць...

Антона вушы абманваюць?

Не...

Аб усім гэтым гаворыць яму скрыпка, калі ён грае «для сябе».

Смычок вядзе гутарку-бяседу із струнамі...

У Антона вочы зажмураны. Па высокім бледным лобе вандруюць зморшчынкі, жывымі герагліфамі рассыпаюцца ўва ўсе бакі; рассыпаюцца і зноў зыходзяцца ў вадну кучку, кладуцца адна на адну, перакрыжоўваюцца, у жмуркі бавяцца.

А скрыпка гавора...

Антон нахіляе галаву над яе сэрцам. Прыслухоўваецца... Яму здаецца, што гэта яго ўласнае сэрца, нібы качка ў гняздо сваё, пераляцела ў скрыпку і сядзіць у ёй.

Мо' гэта так сапраўды?..

А струны — яго ўласныя жылы. У іх яго кроў пераліваецца... Струны жывуць...

«Эх, ды каб пайсьці з сваёй скрыпкай у родную вёску, а там граць, граць... да ахмяленьня, да адурэньня, да сёмага поту...»

Але шушукуюцца недалёка пакаёўкі, шапочуць:

— Пан ідзе...

— Пан ідзе...

— Пан ідзе...

Гукі скрыпкі паміраюць. Мары канчаюцца...

(Далей будзе)

